Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 25 сакавіка 1933 г.

№ 7.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## У Вялікі Дзень.

Сягоньня—25 сакавіка—мінае 15 гадоў ад таго гістарычнага мамэнту, калі Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску абвясьціла парванымі ўсе старыя дзяржаўныя сувязі Беларусі, якія далі магчымасць маскоўскім царом кінуць наш народ у полымя страшэннае вайны, у выніку якое новая — бальшавіцкая — улада Расеі пры падпісаньні Берасьцейскага міру з Нямеччынай ганебна таргавала Беларускай зямлёй і рэзала жывое цела нашага народу на часткі. 25 сакавіка 1918 году правамочныя прадстаўнікі ўсяе Беларусі—адзінае й непадзельнае—абвясьцілі сваю Бацькаўшчыну вольнай і незалежнай Рэспублікай.

Далейшы ход выпадкаў ня даў акрэпнуць маладой Беларускай дзяржаве. Рана, зробленая Берасьцейскім мірам, не загаілася. Наадварот: польска-расейская ўгода ў Рызе паглыбіла гэту рану, і яна крывавіць і сягоньня, а сыны нашага народу ня могуць падаць сабе рукі праз праведзены на нашай зямлі граніцны кардон.—Але акт 25 сакавіка 1918 году, хоць не зрэалізаваны палітычна, стаўся несьмяротным у сьвядомасьці Беларускага народу, які ў гэтым акце выявіў сваё нацыянальнае адзінства і крэпкую волю быць гаспадаром на сваей зямлі.

Ад таго часу пачуцьцё гэтага адзінства ўсьцяж у нас крапчэе і будзе далей крапчэць: 15 гадоў таму назад быў сформуляваны наш нацыянальны ідэал, за якім ідуць сягоньня ўсе сьведамыя беларусы, — як тыя, што прымалі чыннае ўчасьце ў акце 25 сакавіка 1918 году, так навет і тыя, каторыя тады — праз дзіўную палітычную сьлепату—выступалі варожа проці яго.

Але, зварачаючыся думкай да вялікага дня 25 сакавіка 1918 году, мы мусім сягоньня сьцьвярдзіць, што ня толькі вонкавыя прычыны перашкодзілі пятнаццаць гадоў назад зрэалізаваць наш нацыянальны ідэал. Была йшчэ і адна прычына ўнутранага характару: слабасьць нашае нацыянальнае культуры. Народ наш, нашая інтэлігенцыя тады толькі-толькі пачала выбівацца з культурнае няволі ў суседніх народаў, якая пазбаўляла нас таго, што зьяўляецца першай падставай дзеля дзяржаўнага існаваньня кожнага народу: самапэўнасьці. Усьцяж мы аглядаліся на суседзяў, усьцяж чакалі нейкага ратунку ад другіх і ня мелі адвагі пачаць жыць сваім уласным розумам.

Такую самапэўнасьць, без якое наш народ ніколі ня станецца запраўды незалежным, а вечна будзе нейкім папіхачом у чужынцаў, даць нам можа толькі высокая нацыянальная культура. Беларускі палітычны рух, які пачаў разьвівацца ад 1918 году нязвычайна шпаркім ходам, пакінуў далёка за сабой рух культурны — прынамся ў нашай Заходняй Беларусі. І перад намі стаіць сяньня вялізарнае заданьне: будаваць сваю нацыянальную культуру, давясьці наш культурны рух да такога-ж буйнага росту й разгону, якія мы бачылі ў палітычным руху.

Ведама, гэтае заданьне шмат цяжэйшае, чым тая ці іншая палітычная акцыя. І гэтым толькі й можна вытлумачыць факт страшэннага адставаньня культурнага руху ў Заходняй Беларусі ад руху палітычнага. Але мы мусім зраўняць тэмпы тут і там за ўсякую цану. Мы мусім напружыць нашу волю й нашу энэргію, каб стацца моцнымі на культурным фроньце. І сяньня, у пятнаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, мы мусім сабе добра ўсьвядоміць, што будаваньне нашае нацыянальнае культуры гэта ёсьць адначасна закладаньне наймацнейшага фундаманту пад той Беларускі Дом, у якім наш народ — раней ці пазьней — будзе жыць вольным і незалежным жыцьцём.

Будуйма сваю культуру, і мы збудуем сваю дзяржаву!

---

## Бацькі!

## Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

# Сэнсацыйныя весткі.

Уся польская прэса падае вестку аб тым, што ў Лёкарно (Швайцарыя) адбылася канфэрэнцыя паміж прадстаўнікамі італьянскіх фашыстаў і гітлераўцаў, якія абменіваліся думкамі ў справе ўзгодненьня міжнароднай палітыкі між Італіяй і Нямеччынай. На канфэрэнцыі паміж іншым дэлегат Гітлера падаў праект стварэньня вялікай саюзнай дзяржавы, складзенай з Украіны, Беларусі і Літвы.

Праект Гітлера мае на мэце, зразумела, не інтарэсы гэтых народаў, але — барацьбу з бальшавіцкай Расеяй, зьніштажэньне якой Гітлер лічыць канешным ня толькі для Нямеччыны, але і для ўсяго сьвету.

На канфэрэнцыі былі быццам і прадстаўнікі ўкраінскіх германофілаў.

З іншых крыніцаў ідуць весткі аб тым, быццам Гітлер навет прыняў асабіста прадстаўнікоў беларускага студэнцтва ў Бэрліне, з якімі вёў гутарку ў справе „падтрыманьня беларускага незалежніцкага руху". Насколькі праўдзівыя гэтыя весткі, судзіць не бярэмся.

# З цыклю вершаў: Месту.

* * *

О Вільня! Тваім камяніцам,
Асфальту і бруку твайму
Прыйшоў я ізноў пакланіцца,
Ізноў табе песьню пяю.

Прыйшоў я з далёкіх ваколіц
Асьнежаных вёсак і ніў,
Дзе вецер-прыблуда сваволіць,
Сьпяваючы сумны матыў.

Тваім хадніком і вітрынам,
Людзям і палацам тваім
Прынёс я прывет ад Краіны,
Замоўкшай ў чаканьні нямым.

З трывогай глядзяць Яе вочы
Туды—у туманную муць,
Дзе казкай сьвятлянай уночы
Агні твае ў неба плывуць.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Па бруку тваім, Вільня, зноў
Я гонка стаўляю шагі.
Здаўна мы ўжо крыху знаёмы, —
Табе ня зусім я чужы...

Нішто не затрэць успамінаў
З гасьцінных „Лукішак" тваіх...
О, колькі затрулі часінаў
Яны з маіх дзён маладых!

І сяньня, праходзячы міма
Ля гэтых маўклівых муроў,
У душу маю сьцюжай магільнай
Дыхнула няволя ізноў.

Я з дрожжу агіды страсаю
З душы гэты сумны налёт
І неяк жахліва хаваюсь
У рухлівы людзкі карагод.

Уваходжу ў рухомае мора
Раклямы, людзей і машын
Я, сын неабмежных прастораў,
З задумай вясковых пуцін.

Захоплены местам ў няволю,
Па вуліцах шумных брыду
І сьню пра маўклівае поле —
Вясковы спакой маіх дум.

Таболы, 6. II. 1933. **М. Машара.**

# „Зьвярныя мовы".

(*Старонічка да гісторыі сучаснае „культуры"*)

Прысьвячае аўтар усім фальшывым прыяцелям беларускае мовы...

Цікаўна, што якраз у апошнія часы, асабліва пасьля вайны, людзі неяк гэтак зблізіліся да зьвераў, што адзін з нямецкіх вучоных стварыў навет новую тэорыю аб тым, што быццам не чалавек паходзіць ад малпы, але наадварот, быццам малпа паходзіць ад чалавека, які—у выніку нейкай стыхійнай катастрофы ці выраджэньня — зьдзічэў дый апусьціўся ўніз—назад па драбіне разьвіцьця жывёльнага сьвету... Зразумела-ж, тэорыя гэтая навуковай вартасьці ня мае, бо-ж—ня зьнімае зусім пытаньня: скуль-жа ўсё-ж паходзіць той чалавек, з якога — шляхам заняпаду яго высокага біолёгічнага тыпу — стварылася малпа?... Але тэорыя гэтая—вельмі характэрная для нашых часоў „паваеннай барбарызацыі", ці навет — масавае „бэстыялізацыі" чалавека на ўсім сьвеце.

Характэрна і тое, што — якраз у апошнія часы гэтага „збліжэньня" паміж чалавекам і жывёлай у самым іх унутраным агульным тыпе—асабліва завастрылася тая ўвага, сказаў бы навет — „пашана", з якой вучоныя пачалі падыходзіць да вывучэньня ня толькі-ж „псыхічнага жыцьця" зьвераў, як гэта рабілася заўсёды даўней, але папросту, перапрашаем, „духоўнае асобы" ўсялякае скаціны, жывёліны, усялякага зьвера...

Можа хто чуў, што ўжо перад вайной цэлы рад прафэсароў, пераважна нямецкіх, рабіў зусім паважна сыстэматычныя досьледы над матэматычнымі здольнасьцямі... коняў, навучаючы „найздальнейшых" з іх... арытмэтыкі, як вучняў у школе. Асабліва ўславіўся з гэтых „конскіх прафэсароў" адзін (ня ўспомню яго прозьвішча ў гэтую хвіліну), які паказваў свайго „каня - матэматыка" ў розных навуковых таварыствах калегам-прафэсаром, даводзячы, быццам конь гэны з поўнай сьведамасьцю, самастойнай працай мазгоў рашае, зразумела-ж, найпрасьцейшыя арытмэтычныя задачы... зусім ня так, як гэ-

та паказываюць у цырках, дзе ўжываюць розных фальшаў і штук. Памятаю, ўвесь навуковы сьвет тады вельмі зацікавіўся гэтымі спробамі. Як бы там ні было, — хай будзе стыдна нашым тупым ды лянівым да арытмэтыкі школьнікам, што кажуць, быццам для іх чалавечага, босага розуму зацяжкія тыя чатыры правілы арытмэтыкі, з якімі, як казаў памянёны прафэсар (Крыль ці Краль—неяк падобна, ня ўспомню точна), лёгка даваў сабе раду яго „вучоны конь"!.. Ці ня сорамна таксама, пасьля гэтага, аставацца няпісьменнымі і нашым бацьком, дзядзьком ды навет і цёткам на вёсцы?!.

Але вось, зусім у апошні час гэты агульны настрой і нахіл сучаснага чалавецтва, яго агульная, сусьветная так сказаць, „орыентацыя на скаціну" ці зьвера адбілася ў навуковым сьвеце новымі досьледамі над мовай... малпы, навет сабакі!

Адзін амэрыканскі, ці ангельскі вучоны досьледчык, азброіўшыся цэлым арсэналам дасканалых сучасных прыладаў дзеля „фонографаваньня гукаў", паехаў у глыб тропічных лясоў, дзе значны час правёў „у таварыстве малпаў", якіх звычаі, „культуру", а галоўным чынам мову вывучаў „па ўсім правілам навукі". Вярнуўшыся дамоў, ён прывёз з сабой вялізарны параўнаўчы матэрыял, які і распрацоўвае цяпер. У выніку зробленых ужо досьледаў аказалася, што малпы шымпанзэ, якіх спэцыяльна вывучаў ён, маюць усяго ан 27 „слоў", якімі паслугоўваюцца зусім дакладна і добра. Калі ён, каб праверыць свае досьледы, пусьціў у ход — пры публіцы — у зоолёгічным садзе машынку з запісанымі гукамі — „словамі": ідзе дождж — хавайцеся, дзеткі!", — дык усе малпы шымпанзэ, ня гледзячы на гарачыню яснага дня, як шалёныя кінуліся пад страху, ратуючыся „ад дожджу", — пры вясёлым рогаце публікі. Дасьледчык мог быць зусім здаволены!

Але ён яшчэ больш здаволіўся, калі адзін амэрыканскі мільянэр даў яму грошы на раскошнае выданьне ягонае працы. Дык у хуткім часе мае выйсьці ў сьвет вялізарны том, дзе будуць апісаны ўсе яго досьледы, а на пачатку дадзены „поўны ангельска-шымпанзаўскі слоўнік"... Так літэральна і мае быць азагалоўнена гэтае як-ні-як цікаўнае выданьне.

——

А вось яшчэ. Толькі-што ізноў нямецкі вучоны Шмідт у Мюнхэне спэцыяльна заняўся „мовай сабаччай". Таксама пры дапамозе сучасных точных самапішучых прыладаў для „запісу гукаў", ён сабраў і згрупаваў усе „словы сабаччае мовы" дый мае выдаць таксама „Поўны слоўнік" гэтае мовы. Газэты пішуць, быццам гэтае цікаўнае выданьне мае быць зроблена коштам... нямецкага міністэрства народнае (!) асьветы!..

——

Ці-ж не характэрна для нашых, запраўды-ж „зорыентаваных на зьвера" больш, як на чалавека, часоў — такая ўвага ды пашана да „культуры", „душы" й „мовы" малпаў, коняў, сабак, калі навет у самых, здавалася-б, „культуральных" краёх і грамадзянствах усьцяж шалее грубая няўвага ды „зьвярыная" непашана да культуры, душы і мовы цэлых жывых народаў, якім пануючыя над імі сільнейшыя „дзяржаўныя", а якраз дзеля таго і няўхільна зьвяраючыя, народы-жываеды не даюць магчымасьці дайсьці да поўні высокае чалавечнасьці — да поўні „вобраза і падобія Божага"?!

Эс.

# Гаспадарчы аддзел.

## Спосабы гадаваньня цялят у першыя месяцы па нараджэньні.

Ёсьць фактычна два асноўныя спосабы гадаваньня цялят: прыродны, калі цяля ссе сваю матку, і штучны, калі цяля адразу навучаюць піць ужо выдаенае малако. Кожны з гэтых спосабаў мае свае дадатныя і ад'емныя бакі, а дзеля таго сказаць, каторы з іх лепшы, а каторы горшы,—трудна. Усё залежыць ад умоў гаспадаркі. Дзе каровы даюць шмат малака і дзе цяляты могуць мець руплівы дагляд, там, бязумоўна, будзе лепшым другі спосаб, гэта знача—выпойваньне цялят. Калі-ж каровы даюць мала малака, асабліва калі на ручное кармленьне (выпойваньне) не хапае часу, ці гэтае выпойваньне ня можа адбывацца рэгулярна, дык заўсёды будзе лепей пакінуць цяляты пры каровах. Перад тым, як прыступіць да гадоўлі цяляці тым ці іншым спосабам, гаспадар павінен добра разважыць.

Калі мы навет затрымаемся на першым спосабе гадаваньня цялят, пры якім цяляты жывяцца беспасрэдна ссучы карову, то і тут трэба завесьці пэўны парадак. Нельга цяляты на ўвесь час пакідаць пад каровамі, бо пры такім палажэньні цяля можа нассаць малака залішне многа, а гэта шкодзіць здароўю. Апрача таго яшчэ цяля ня кожную дойку (струк) аднолькава высысае, што ў большай ці меншай меры адбіваецца на дойнасьці. Дзеля гэтага лепей цяля не пакідаць пры матцы, а адгарадзіць яму тутжа пры карове катушок і пускаць да маткі толькі дзеля кармленьня. У першыя дні цяля трэба пускаць да коровы ня меней пяці разоў у пару, пасьля-ж хапае і тры разы. Дзеля таго, што пры гэтым спосабе цяля не гарантавана ад перассаньня, асабліва ў першыя дні, дык рэкамэндуецца забясьпечваць ад гэтага частковым здойваньнем. Таксама, калі пасьля ссаньня ў вымі застаецца малако, дык яго трэба дачыста выдойваць, калі хочам, каб карова адпаведна раздаілася.

Цяляты, якія не пакідаюцца на гадоўлю, а ідуць на зарэз, не пакідаюцца болей пры карове, як 8—10 дзён. Цяляты-ж, прызначаныя на гадоўлю, дастаюць поўнасьцю малако даўжэйшы час: цэлкі ня меней 4

тыдняў, а бычкі навет болей 6 тыдняў. Пасьля гэтых тэрмінаў цяляты павольна прывучаюцца да пойла і сухога корму. У гэты час да кароў іх пускаюць радзей, а за тыдзень ужо зусім ад каровы адлучаюць.

Вышэй пададзены спосаб, хаця, праўда, і ня трудны, але затое мае шмат іншых нявыгодаў. Самае галоўнае пры гэтым спосабе, што цяляты, пасьля таго, як іх адлучаць, ня лёгка прывыкаюць да корму з рук. Яны даўжэйшы ці каротшы час ядуць слаба, а дзеля таго значна худзеюць. Адлучэньне цяляці таксама ад'емна адбіваецца на карове. Тая даўжэйшы час сумуе па цяляці, калека есьць, а некаторыя з іх навет пры даеньні ня хочуць даваць малака. З гэтых прычынаў у паступовых гаспадарках цяля адлучаецца ад маткі зараз жа па нараджэньні, не даючы навет матцы аблізаць цяля, а выціраюць яго ўжо самі сухою ганучкай. Некаторыя, праўда, пакідаюць цяля па нараджэньні на кароткі час пры матцы, каб яна яго аблізала і каб цяля адзін раз пассалася малодзіва.

Зараз па нараджэньні цяля вельмі лёгка навучыць піць малако. У гэтых выпадках чысты палец мочыцца ў малако і даецца ссаць цяляці, а пасьля палец аднімаецца і зараз-жа падстаўляецца малако. Пры кармленьні цялят з рукі трэба ім даваць сьвежае, толькі што надоенае малако і ў першыя дні абавязкова малако маткі—малодзіва, бо апошняе неабходна для ачышчэньня страўнага праходу ў цяляці ад першароднага калу. У першыя дні цяля поіцца ня меней пяці разоў на дзень, але затое порцыя малака зусім невялікая — ад $^1/_2$ да $^3/_4$ літру на раз. На другі тыдзень цяля дастае ад 4 да 6 літраў у дзень. Колькасьць малака, патрэбная дзеля добрага аджыўленьня цяляці, залежыць ад яго вялікасьці. Дзенная порцыя для бычка складае адну шасьціну яго жывое вагі, для цёлкі-ж гэтая порцыя складае толькі сёмую частку яе жывое вагі. Пасьля 4 тыдняў, калі гадуем цёлкі, і пасьля 6—7 тыдняў, калі гадуем бычкі, каля трацiны кармавое порцыі поўнага малака замяняецца малаком зьбіраным, і колькасьць зьбіранага малака з часам у кармавой порцыі паступова павышаецца, так што на 7-м тыдні яго даецца каля 10 літраў. На восьмым тыдні ўжо малако часткова замяняецца пойлам.

Пойла гатуецца з вотрубаў, але найлепшае пойла ёсьць з ільнянага семя. Таксама разваранае ільнянае семя карысна ўжыць, калі яшчэ няма ці не даецца пойла, а толькі зьбіранае малако. На кожны літр зьбіранага малака даецца 40—50 грамаў ільнянага семя, каторае павінна быць зьмеленае і добра разваранае ў вадзе, якой бярэцца прыблізна паўлітру. На заканчэньне мусімо сказаць, што цяляты і наагул маладняк трэба карміць і даглядаць добра, бо што змоладу занядбана, таго ўжо ніяк нельга настарасьці паправіць.

**З. К.**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Беларускае Нацыянальнае Сьвята.** У суботу, 25 сакавіка, ўсё беларускае грамадзянства Вільні ўрачыста сьвяткуе 25-годьдзе абвяшчэньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, якое адбылася ў Менску 25 сакавіка 1918 году.

Раніцай маюць адбыцца ўрачыстасьці царкоўнага характару: імша ў касьцеле сьв. Мікалая ў 10 гадз. малебны ў царквох: ў Пятніцкай царкве ў 11,30 г. і ў Прачысьценскім Саборы.

Раніцай-жа ладзіць урачысты абход Нацыянальнага Сьвята вучнёўскі літаратурна-гістарычны гурток пры беларускай гімназіі; абход адбудзецца ў школьных рамках.

Увечары ў 7 гадз. адбудзецца ўрачыстае паседжаньне Рады Таварыства Беларускае Асьветы з удзельцем запрошаных гасьцей у памяшчэньні Т. Б. А. (Мэтрапалітальны пляц 3, кв. 12). Пасьля паседжаньня супольная гарбатка.

У 7,30 г. ўвечары хадэцкія арганізацыі супольна з Т-вам Беларускае Школы ладзяць урачыстую акадэмію ў салі „Апельлё" (вул. Домброўскага 5). Уваход па запросінах.

**Водгукі абходу 15-леццзя Белар. Навуковага Т-ва.** Супрацоўнік абшарніцкага „Słowa" п. Харкевіч, які сам-жа напрасіўся, каб яго пусьцілі на адбытае 5 сакавіка ўрачыстае юбілейнае паседжаньне сяброў Т-ва, у адказ на гасьцінасьць беларусаў надрукаваў у „Słowie" яўную зласьлівую хлусьню аб Т-ве, кажучы, што нібы то на паседжаньні Т-ва было ўсяго 30 сяброў і то ў веку ад 15 да 18 гадоў...

Ад абшарніцкае газэты ў адносінах да беларусаў можна было спадзявацца ўсяго, і дарма арганізатары абходу пусьцілі гэнага панка на паседжаньне, на якім былі найпаважнейшыя прадстаўнікі ня толькі беларускага, але такжа польскага і літоўскага навуковага сьвету ў Вільні. Але тым большую агіду выклікае выступленьне нібы-то беларускага органу кс. Адама Станкевіча — „Беларускае Крыніцы".

Узрадавалася душа „айца" Адама, што паны-абшарнікі бэсьцяць беларускіх навукоўцаў, і ён з нязвычайнай сквапнасьцяй перадрукаваў брахню „Słowa", а пры нагодзе і

ад сябе „брыкнуў“ гэтую найпаважнейшую пад Польшчай беларускую навуковую пляцоўку і ўсіх сяброў яе, перад усім-жа старшыню Таварыства гр. Антона Луцкевіча.

Запраўды: несьмяротны гэны асёл з байкі Крылова, што брыкаў льва, калі гэта можна было зрабіць бяскарна...

## На правінцыі.

**Спыняюць навуку беларускае мовы.** (Вёска Бакуны, пав. Пружанскага). Чытаючы беларускія газэты, часта знаходзіш весткі аб жыцьці сялян з усіх куткоў Беларусі; на жаль, аднак, аб нашай Пружаншчыне нічога ў беларускіх газэтах ня чуваць, дык дзеля гэтага лічу сваім абавязкам падзяліцца думкамі нашых сялян з іншымі людзьмі.

Вёска наша невялікая, налічвае каля 70 гаспадароў. Усе беларусы праваслаўныя; большасьць малазямельныя. Ёсьць у нас школа ўрадовая, 1-клясовая. Вучыцель у нас праваслаўны, недалёкі ад нас чалавек. У школе ў нас ад 1925 году выкладаўся беларускі язык, як прадмет, 3 разы ў тыдзень; дзеці навет добра вучыліся пабеларуску чытаць і пісаць ды сьпяваць беларускія песьні і вершы гаварыць, а бацькі былі здаволены тым, што іх дзеці ўсё-такі ўмеюць пабеларуску чытаць. Але-ж на-жаль гэтаму прадмету з кожным годам адводзілася менш меснца, а ў гэтым годзе (1933) і зусім беларускі язык не выкладаецца—быццам па загаду вышэйшых уладаў. Сяляне нашыя, абураныя гэтым, пастанавілі падаць паданьне да школьнага інспэктара ў Пружане, каб у нашай школе і надалей выкладаўся беларускі язык, і ўсе бацькі і апякуны школьнікаў падпісаліся. Але-ж пан інспэктар, замест вучыць пабеларуску нашых дзяцей, узяў одпіс паданьня і паслаў на пастарунак паліцыі ў Сухаполь для „доходзэньня“: хто запрапанаваў напісаць паданьне і хто яго напісаў. Вось тут і пачала да нас езьдзіць паліцыя дый дапытвацца. Вызывалі паасобных сялян паадным на „баданьне“ дый усё дапытваліся, хто запрапанаваў напісаць „паданьне“ дый хто пісаў яго? „Бадалі“ нат і солтыса. Але-ж сяляне стойка адказвалі, што на сходзе пастанавілі аднагалосна напісаць, што і было зроблена. Нат староства вызывала солтыса ў Пружаны і там быццам пагражалі яму за тое, што дапускае ў сяле пісаць такія паданьні. Так сялян нашых палохаюць, каб больш не дамагаліся роднае школы. А школы беларускай як няма, так няма, і сяляне ня ведаюць, што рабіць далей: ці дамагацца роднае школы, ці даць спакой? Можа беларускія грамадзкія арганізацыі парадзяць, што рабіць нам у гэтай справе.

**Бакуноўскі.**

—·—

**Ад рэдакцыі.** Ходайцеся за свае права і справы ня кідайце. Пісьмо Вашае падаем у Т. Б. А.

**Сумнае зьявішча.** (В. Яськавічы). „Век двацаты — век хорошы. Эх, каб грошы, толькі грошы!“ — прыпомніўся мне верш, калісьці вычытаны ў „Маланцы“, у часе разважаньняў над апошнімі падзеямі ў Яськавічах. Век XX — век практычны, кожны, бедны ці багаты, просты ці гарбаты, калі мала мае зямлі, дык стараецца быць фахоўцам. Адзін кравец, другі шавец, або рымар, а іншы дык служыць за шпіка, яшчэ іншы „палюе“ на чужую ўласнасьць...

Усе фахі, як фахі: ад іх ёсьць усім карысьць. Але ёсьць між імі і такія, што хіба-ж карысныя адным толькі гэным асаблівым „фахоўцам“.

У нашай вёсцы ёсьць такія ягамосьці, каторыя снуюць каля вакон і выслухваюць, дзе што робіцца ці гаворыцца, а пасьля з падслуханых адрыўкаў і утаркі фабрыкуюць цэлыя абвінаваньні проці сваіх братоў. Многа ў нас аматараў і чужое ўласнасьці, якія распаношыліся і цягнуць дзе і што даецца. Хоць частка аматараў папала на паўтара году пад ключ, але другая і далей „працуе“, бо надовячы ў аднаго гаспадара „сьпёрлі“ мяшок пшаніцы.

Усе гэныя „аматары“ ёсьць хваравітым вынікам сучаснага гаспадарчага заняпаду вёскі. Але вінавата тут і цемната, вінавата паваенная зьдзічэньне вёскі. Апошняе-ж ўзмацняе яшчэ брак роднае школы і культурна-прасьветнай працы ў роднай мове.

Наша моладзь падзялілася на дзьве часткі. Калі адна займаецца культурна-прасьветнаю працаю, дык другая, менш сьвядомая, але лічбова большая частка займаецца гульнёй у двацаць адно. Да таго заігрываюцца, што навет апошнія грошы ідуць у банк. Прыкладам грам. Ш. за адзін вечар прайграў грошы за бычка, якога гадаваў 2 гады. Ст. С. і П. Б., абодва шаўцы, прайгралі усе шавецкія прылады, а швагер Ст., былы заступнік солтыса, за картамі ня меў часу даглядзець жонкі, каторая ў часе радоў Богу душу аддала. С. Б., ня маючы залатоўкі на банк, цягае ў маткі яйцы, а то часамі чубатка ці пеўнік аддае галаву пад нож.

У часе астатняга вечара, 19-га лютага, прысутны на вечарыне Сандрос за беларускія песьні абзываў нашых хлапцоў камуністамі і крычаў, што заявіць на пастарунак за тое, што пялі „Саўка ды Грышка“, „Зорка Вэнэра“ і др. Ганьба яму!

**Зьагар.**

## Б. С. С. Р.

**Чарговы разгром беларускай асьветы.** ЦК. камун. партыі Беларусі пастанавіў:

„За механічнае правядзеньне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай палітыкі—коштам інтэрнацыяналізму, за засьмечваньне Нар. Камісарыяту Асьветы клясава-чужацкімі элемэнтамі“ — зволніць нар. камісара Асьветы Пластуна, старшыню дзяржаўна-навуковай Рады праф. Вольфсона і дырэктара Бел. Дзярж. Выдавецтва Некрашэвіча; апроч

таго — за тыя ж „віны"—абʼяўлена „нагана" (добра яшчэ, што не наган...) заступнікам нар. ком. асьветы Бялузе і Рудніцкаму.

Але і на гэтым не канец. —За „нац.-дэмакратычны нахіл" (чытай: апор маскаленьню ды „марксаваньню" беларускай культуры і асьветы) выгнаны з Бел. Пэдагогічнага Інстытуту прафэсары: Пярцоў, Рыўлін, Слуцкі, Стальны, Гессэн, Воўкаў, Чарнавус, Войтковскі (камуніст), Пічэта, Якубчык, Сарахцін, Пятуховіч, Барычэўскі, Багдановіч, Айзэнбэрг і інш. З пераліку відаць, што „мятла" у руках усерасейскага дворніка-варвара ня спынілася перад найбольш паважнымі навуковамі імёнамі маладой беларускай навукі і культуры.

## У Літве.

**Зьезд беларускае меншасьці ў Літве.** Толькі цяпер — з вялікім опазьненьнем — дайшла да нас вестка аб адбытым 26-га лютага ў Коўне зьезьдзе беларускае меншасьці ў Літве. У зьезьдзе прыймала ўчасьце 60 асоб. Зьезд выслухаў справаздачу аб дзеяльнасьці Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве за першы год яго існаваньня. Пры перавыбарах ураду Т-ва у склад апошняга ўвайшлі: Якавюк, Матач, Плескачэўская, Радзюк, Дзядовіч; у рэвізыйную камісію — Кунаховіч, Мілінкевіч, Гайдукевіч.

Далей зьезд прыступіў да ўтварэньня Нацыянальнае Сувязі Беларусаў у Літве і цэнтру яе—Беларускага Нацыянальнага Камітэту, у склад якога выбраны: Чаркас, Боев, Плескачэўская, Якавюк, Матач, а кандыдатамі — Раманейка, Езайтіс, Саковіч. У рэвізыйную Камісію ўвайшлі: Кунаховіч, Шакур і Кошкін, як сябры, і Мілінкевіч ды Мотуз, як кандыдаты.

На зьезд горача адгукнуліся беларусы з Латвіі.

**Статут Нацыянальнае Сувязі Беларусаў Літвы** зацьверджаны 15-га студзеня Літоўскімі ўрадовымі ўстановамі. Мэтаю „Нацыянальнае Сувязі" зьяўляецца абʼяднаньне ўсіх беларускіх арганізацый і паасобных грамадзян-беларусаў у Літве ды закладзіны Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які рэпрэзэнтаваў бы ўсю беларускую меншасьць.

—•—

Падаем жменю інфармацыяў аб жыцьці беларусаў у Літве паводле апошняга нумару „Белар. Школы ў Латвіі".

**Беларускі Народны Унівэрсытэт** у Коўне ўрачыста адчыніўся 22 студзеня ў памешканьні клюбу „Беларуская Хатка" пры вуліцы Крашэўскага 34. На адчыненьні было шмат гасьцей беларусаў ня толькі з Літвы, але і з Латвіі, а таксама шмат літвіноў.

**Беларускі Студэнцкі Гурток** пры Унівэрсытэце Вітаўта Вялікага ў Коўне ўжо атрымаў зацьверджаньне ад унівэрсытэцкае ўлады і прыступіў да працы пад назовам „Абʼяднаньне студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага". У праўленьне „Абʼяднаньня" абраны: старшынёй—студ. Д. Рудзь, намесьнікам старшыні—І. Чаркас, скарбнікам—А. Ус і сэкратарам—А. Зэйгліш. У Рэвізыйную Камісію абраны: студ. Раманейка, Верабей і Малаток.

**Жаночы Камітэт** пры Культурна-Асьветным Т-ве ўтварыўся ў сьнежні месяцы ў Коўне. Жаночы аддзел узяў на сябе дабрачынныя функцыі і будзе апекавацца ў першую чаргу дзяцьмі беларускага жыхарства ў Коўне.

**Беларускі Дзіцячы Сад у Коўне** адчынены ў сярэдзіне месяца лютага працаю Беларускага Жаночага Камітэту пры Беларускім Культурна-Асьветным Т-ве.

**Гелваўскі Аддзел Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве** распачаў сваю працу на Каляды. Гэта ўжо трэці аддзел Т-ва, паступова пашыраючага сваю працу на правінцыі.

## У Латвіі.

**„Беларуская школа ў Латвіі"** ахвяравала свой студнёвы нумар ведамаму беларускаму дзеячу, аўтару Беларускае Граматыкі, Браніславу Тарашкевічу, засуджанаму ў Вільні на 8 гадоў катаржнае турмы.

**Беларускія сьпевы** па радыё распачала ў Рыскім радыёфоне беларуска-літоўская сьпявачка Анеля Латонас-Дзямідава.

**Латышска-беларускі слоўнік.** Пятро Масальскі ў пачатку 1930 году прыступіў да складаньня першага латышска-беларускага слоўніка. Праца гэтая ўжо блізіцца да канца і ў працягу гэтага году мае быць закончана, пасьля чаго слоўнік будзе перададзены на разгляд спэцыяльнае камісіі. Слоўнік гэты будзе мець каля 25.000 слоў і зможа значна задаволіць беларускае грамадзянства, а таксама і латышоў, якія цікавяцца беларускай культурай. Адначасова з працай над латышска-беларускім слоўнікам Пятро Масальскі сабраў значную колькасьць матарʼялаў і да беларуска-латышскага слоўніка.

**125-я ўгодкі сьмерці В. Дуніна-Марцінкевіча** адзначыла 28 студзеня 1933 году ўрачыстым актам Рыская вячэрняя беларуская школа для дарослых. Акт адбыўся ў клюбе „Вулей" у Старым Горадзе.

**Спорт у Т-ве Беларускае Моладзі.** Цэнтральнае Праўленьне ўхваліла залажыць пры Т-ве Спартыўную Сэкцыю. Кіраваньне Спартыўнай Сэкцыяй даручана тром сябрам Т-ва: Яну Кудраўцаву, Язэпу Каялу і Міхасю Калініну. Намечаны гэткія бліжэйшыя заданьні: 1) арганізацыя гуртка лыжнікаў, 2) закладзіны дзьвюх футбольных каманд у Рызе (на Маскоўскім Фарштаце і на Чырвонай Дзьвіне), стварэньне групы Пінг-Понг.

---

Перачытаўшы газэту — перадай другому.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Новыя заканадаўчыя паўнамоцтвы выканаўчай уладзе.** Сойм ізноў даў яшчэ шырэйшыя, чым дагэтуль, заканадаўчыя паўнамоцтвы Прэзыдэнту Рэспублікі. На гэты раз у закон аб паўнамоцтвах уваходзяць блізу ўсе звычайныя заканадаўчыя правы парляманту за выняткам толькі такіх, для якіх прадбачана павялічаная большасьць галасоў у Сойме, як, прыкладам, зьмена канстытуцыі.

**Крывавыя забурэньні сярод работнікаў у Пабіяніцах.** У Пабіяніцах на груньце забастовачнай акцыі, кіраванай, як цьвердзіць „ПАТ", камуністамі, здарыліся забурэньні, якія пацягнулі за сабой 5 ахвяр забітымі і некалькі раненых работнікаў. Натоўп работнікаў у 2.000 асоб пасьля мітынгу пайшоў паходам па вуліцах і спаткаў атрад паліцыі, якая манілася спыніць паход, каменьнямі і стрэламі з рэвальвэраў. Тады паліцыя дала ў натоўп колькідзесят стрэлаў, у выніку якіх і палеглі вышэй сказаныя ахвяры.

## За граніцай.

**Спроба ратаваньня міру.** Сэнсацыяй палітычнага дня зьяўляецца падарожа прэм'ера і міністра замежных спраў Англіі ў Рым—на спатканьне з Мусоліні.

Як высьвятляе эўрапэйская прэса, Мак-Дональд думае разам з Мусоліні ратаваць не толькі лёс разбраенчай канфэрэнцыі, якой ячна пагражае крах, але і лёс эўрапэйскага міру, які так сама стаіць перад катастрофай. Мак-Дональд хоча неяк „перакінуць мост над прорвай", якая дзеліць Эўропу на два ячна ці скрыта варожыя лягеры: на дзяржавы, якія за ўсялякую цану бароняць сучасны эўрапэйскі лад, абапёрты на трактатах, і на дзяржавы, якія так тама за ўсялякую цану імкнуцца да зьмены і гэтага ладу, і гэтых трактатаў. На чале першага лягеру стаіць Францыя, на чале другога—Нямеччына. Англія і выступае ў ролі пасярэдніка. Мак-Дональд хоча намовіць Мусоліні, каб дапамог яму ў гэтай ролі. Мусоліні павінен націснуць на Нямеччыну, Мак-Дональд—на Францыю. Калі-б гэтая місія іх не ўдалася, блізу ўсе наглядчыкі эўрапэйскіх стасункаў прарочаць вайну.

Але „пакрыўджаныя трактатамі" дзяржавы, з Нямеччынай на чале, высоўваюць рад вельмі грунтоўных дамаганьняў. Тут і трэбаваньне раўнапраўя ў збраеньнях, тут і найбольш цяжкія да выкананьня дамаганьні тэрыторыяльнага перадзелу, ці пераробкі граніцаў. Дык трэба неяк пераканаць ці змусіць дзяржавы іншага лягеру, каб яны пайшлі на гэтыя ахвяры. Але ўсе яны, апрача хіба-ж адной Францыі, ясна адказываюць, што свае трактатовыя правы, асабліва-ж тэрыторыяльныя здабычы, будуць бараніць усімі спосабамі, не выключаючы аружнага... Дык і на гэтым шляху так сама пагражае вайна...

Такім чынам, „вэрсальская Эўропа" апынулася ў нейкім зачараваным коле: усе выхады з яго вядуць праз полымя вайны...

З Рыму англійскія міністры заяжджалі ў Парыж, каб паразумецца з Францыяй аб тых плянах, якія былі апрацаваны ў Рыме.

У бліжэйшым часе ў Рым да Мусоліні маюць прыехаць так сама і Гітлер з сваім міністрам замежн. спраў Нэйратам.

**Гітлер шукае „выхаду для народнай энэргіі".** Барацьба Гітлера процi камуністаў і соцыял-дэмакратаў няўхільна павядзе да страшэннага аслабленьня Нямеччыны ў хатняй вайне. Гэта добра разумее Гітлер, а таму ён шукае вонкавага выхаду для народнай энэргіі „разбуджанай 4 сакавіка да новага жыцьця Нямеччыны". Дый гітлераўскія правадыры адкрыта кажуць, што першыя крокі іх „новае Нямеччыны" навонках маюць быць зроблены праз сучасную граніцу у двух напрамках: на Гданск і на Вену. „Паўнамоцнік Гітлера на тэрыторыі Данцыга", кіраўнік „данцынгскага гнязда" гітлераўцаў Форстэр, у сваім органе ў Гданску, трэбуе ад сэнату вольнага места, каб зрокся ўлады на ягонук карысьць, а ён, Форстэр, папросту „далучыць Данцыг да нямецкай бацькаўшчыны".

З другога боку, — на граніцы Аўстрыі згуртаваны значныя масы гітлераўскіх „войскаў", а сама Аўстрыя стаіць напярэдадні гітлераўскага перавароту, які ўжо безадкладна давядзе да злучэньня абедзьвюх нямецкіх дзяржаваў у адно цэлае. Быццам на гэта Гітлер мае згоду Мусоліні...

**Напярэдадні разрыву між Англіяй і СССР.** Арышт 4 працаваўшых у СССР прадстаўнікоў англійскай сталёвай фірмы выклікаў вострыя пратэст з боку англійскага ўраду. На пратэст гэты Літвінаў адказаў вельмі рэзкай адмовай „звольніць грамадзян Англіі ад адказасьці перад агульным для ўсіх, не выключаючым і чужаземцаў, савецкім законам"... Тады англійскі ўрад заявіў, што да звальненьня арыштаваных зрывае гандлёвыя перагаворы з СССР.

**Ваенная дыктатура ў Грэцыі.** Зараз жа пасьля выбараў у Грэцыі, якія не далі большасьці ўрадавай партыі (Вэнізэлёса), захапіў уладу — быццам у паразуменьні з Вэнізэлёсам — генарал Плястірас, які сам стварыў урад, абвясьціўшы сябе ваенным дыктатарам. Але ўрадаваў амбітны генарал нядоўга. Перамогшая на выбарах партыя здолела згуртаваць сілы і арыштавала няўдалага дыктатара з яго „габінэтам" дый мае аддаць усіх пад суд.

**Японія ідзе далей.** Захапіўшы аружнай сілай (але... „без вайны!") усю Манчжурыю дый яшчэ з Джэхолем у дадатак, Японія, замест таго, каб спыніць наступленьне, як абвясьціла ўрачыста, пасоўвае свае войскі далей—у глыб Манголіі, а навет дзе-не-дзе заходзіць праз Вялікі Мур да паўночнага Кітаю.

# ПРАЧНІСЯ!

Гэй, вясковая моладзь, прачніся!
Досыць спаць доўгім сном злой нядолі!
За культурную працу вазьміся:
Гэтым шлях ты збудуеш да Волі.
Усяго, што благое, зрачыся:
Піць гарэлку, у карты гуляць...
Ты кніжку бярыся й вучыся,
Не лянуйся й другіх навучаць.
Даюць гарэлка уцехі ня многа,
Дый і карты к дабру не вядуць:
Апроч кражы, разбойства, вастрога
Нічагуткі йны нам не дадуць.
А замест на гарэлку, ты гэты
Злоты два або тры не жалей
І вазьмі дый пашлі на газэту:
Ты ўсю праўду спазнаеш у ей,
Дзе якія на сьвеце народы,
Як багата і вольна жывуць,
Як змагаць нам усе перашкоды,
Што дайсьці да сьвятла не даюць.
Дык, вясковая моладзь, прачніся!
Не марнуй сваіх сіл маладых.
Усьведамляй сабе й не лянія
Усьведамляць таксама другіх.
Ці-ж сьвядомасьць здабыць мы ня зможам?
Ціж на сьвеце дурней мы за ўсіх?
Не, ніколі: мы ўсё пераможам,
Мы збудуем жыцьцё для саміх!

Юльян Касьцюкевіч.

Шоўдрыкі, 6. III. 1933.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Баз. Плаўсюку**—Баранавічы. Тое, што пішаце аб нашым часопісу, вельмі нас усьцяшае. Нажаль, прысланы верш усьцешыў нас значна менш: да друку не надаецца. Але — першы блін заўсёды комам. Пішэце далей, але перад усім чытайце нашых мастакоў слова і вершу—вучыцеся ад іх ладу і складу. Статут Т. Б. А. высылаем.

**Юл. Касьцюкевіч.**—Шоўдрыкі. Ліст Ваш атрымалі. Высьветляйце ўсім, што сяброўства і працы ў нашым Таварыстве баяцца ня трэба: яно ня толькі цалком легальнае, але і зусім безпалітычнае: выключна культурна-асьветнае. Пашырайце часопіс, які аж залішне ясна сьведчыць аб гэтым, і ён пераможа „недавер і няпэўнасьць", а таксама і „нясьведамасьць мясцовага насяленьня". З свайго боку, мы з цэнтру будзем памагаць вам перамагаць перашкоды на мясцох, калі яны ня маюць законнай падставы дый яшчэ й кіруюцца „варожасьцяй", для якой не павінна быць мейсца ў такой першае чаргі і і патрэбы справе, як духоўны ўздым культурна-адсталага народу. Газэту вышлем, статут таксама, а ў свой час прышлем і бібліотэку.

**Гр. Н. Г.** — Навасёлкі. Пэўне-ж — няма горшай бяды для народу, калі ён „зьняверыўся", страціў веру ў сваю ўласную справу! Гэта значыла-б, што бяда звонку ўвайшла ў нутро, зьела яго душу... Гэта-ж — сьмерць! Але ці ж запраўды так жудасна ўжо ёсьць? Тое, што пішаце аб вонкавых абставінах: аб крызісе. сэквэстратарах, адбіраньні газэтаў, якія ідуць легальна праз пошту, спраўнасьць якой гарантавана ўсей павагай Польскай дзяржавы, аб арыштах, на якія дазваляе сабе „рэфэрэнт карны" (на 15 дзён!!!) за атрыманьне газэты,—усё гэта, гэтыя злыдні і надужыцьці, гэта—вонкавыя беды, з якімі трэба спакойна і вытрывала змагацца ўсімі законнымі спосабамі, усімі сіламі душы. Але ня трэба, ня можна пускаць усё гэта ў душу, каб гэтак забівала веру ў сьвятасьць нашае справы народнае, зьніштажала энэргію змаганьня з бядой і крыўдай. Нашае Т-ва якраз і мае мэтай падтрымаць і веру гэтую, і энэргію нашага народу ў сучасныя цяжкія дні, дапамагчы яму ў яго змаганьні.

Усё, што трэба для працы намесцы, вышлем. Пры першай магчымасьці надашлем да вас і інструктара нашае Цэнтралі. Кандыдатаў у сябры Т-ва выбірайце асьцярожна — не ганіцеся за лічбай, але за якасьцю. Пашырайце газэту.

**Гр. Пятроўскаму**—Дэрэчын. Дзякуем за адказ. Нічога супярэчнага з рэлігіяй нагул, бяз рожніцы вызнаньняў, наша праца ня мае, таму ніякай перашкоды ні з нашага, ні з вашага боку для вашага ўчасьця ў гэтай працы ня бачым. Варунак „фармальнага пацьверджаньня" кіраўніка б-кі, як і зарэгістраваньня б-кі, здаецца, не выклікае непаразуменьня. Статут высылаем. Западпішчыкаў дзякуем, але апэтыт наш на іх, чым далей, тым больш расьце!..

**Гр Вайтулевічу** — Дзятлавічы. Ахвотна вышлем вам інфармацыі аб нашым таварыстве, але папераджаем, што пакуль-што на ваш раён наша дзейнасьць не пашыраецца. З часам дойдзем і да вас. Пашырайце пакуль-што наш часопіс, шлеце падпіску.

**Сельскаму прыхаджаніну** — в. Сьвіла, гм. Пліская. Усё, што Вы пішаце аб паступаньні вашага сьвяшчэньніка ў справе збору грошаў на будову ў вёсцы новай царквы дый аб яго барацьбе з будаўляным камітэтам, вельмі і вельмі сумна. Вашу карэспандэнцыю, аднак, можам зьмясьціць толькі пасьля таго, як атрымаем праз вас пацьверджаньне ўсіх паданых вамі фактаў ад самага камітэту будовы царквы. Залішне цяжкія закіды робіце вы сьвяшчэньніку, каб можна было з лёгкім сэрцам пакладацца на вас аднаго—без дакумэнтаў. Атрымаўшы пацьверджаньне, зробім захады ў царкоўных уладаў.

**Чытайце і пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22